# Ніва




БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК

№ 1 (671) ГОД XIV 5 СТУДЗЕНЯ 1969 Г. ЦАНА 60 гр.


**Усе рэчы і падзеі маюць свой адрас у часе: яны існуюць не толькі дзесьці, але і калісьці.**

**Час спалучае ў сабе імгненні і вечнасць. Бязгучна і безупынна струменіцца ён, нябачны, неадчувальны, няўлоўны. Але ёсць у нас «лавец» часу: не забывайце толькі кожны дзень адрываць чарговы лісток календара. Гэты лісток гаворыць нам, што пачаўся новы год: 1969. Як і ўсе іншыя, будзе ён працягвацца 365 сутак + 0,242198... сутак. Адразу нават не прачытаеш. З гэтай дабаўкі, як ні старайцеся, цэлых сутак вы не атрымаеце. Год і суткі, гавораць матэматыкі, несумерныя: нельга падзяліць большую велічыню на меншую без рэшты. Прырода не матэматык: няма ў яе свядомай, разумнай мэты. Дай волю чалавеку, ён стварыў бы больш выгадную Зямлю. Мо, з часам ён і прымусіць яе рухацца хутчэй ці памалей.**

**Ды ці цяпер ён гэтага не робіць? Ці не змагаецца ён з сіламі, якія хацелі б рух зямны спыніць, пусціць яго ў адваротным напрамку? А ў Зямлі адзіная надзейная арбіта: сацыялістычная. Зямля выйшла на яе. Ці будзе па ёй рухацца хутчэй, ці памалей — наша таксама заслуга, або віна.**

**Якія падзеі рыхтуе нам час у новым годзе? Перш за ўсё, уваходзім у дваццаць пяты год нашай народнай дзяржавы. Гэта важная ў нашым жыцці**




**падзея будзе спадарожнічаць з намі праз многія месяцы, будзем ёй аддаваць свае думкі і сэрцы. Нам, беларусам, гадавіна гэта напамінае не толькі пра пэўны, важны гістарычны адрэзак, які прайшла наша краіна, але мае яшчэ і асаблівую вымову: народная ўлада зрабіла нас раўнапраўнымі грамадзянамі краіны, сталі мы гаспадарамі свайго жыцця і будаўнікамі лепшай будучыні супольнай айчыны. Разам з правамі набылі мы таксама і адказнасць за лёс дзяржавы. Гэта нас павінна не толькі радаваць, але і натхняць на стваральную працу ў карысць нашага грамадства, у карысць сацыялістычных пераўтварэнняў у Народнай Польшчы. Працы ў нас многа. Заданняў усім хопіць. Напрамкі дзейнасці паказваюць пастановы V з'езда Партыі.**

**1969 год кіруе таксама нашы пачуцці на Беларусь. Шлем ёй сардэчныя прывітанні з нагоды слаўнага пяцідзесяцігоддзя беларускай дзяржаўнасці і разам са ўсім беларускім народам цешымся яе здабыткамі і радасцю. І будзем лепш пашыраць веды аб БССР сярод нашага грамадства.**

**Урэшце, 1969 год гаворыць членам БГКТ аб набліжаючымся з'ездзе нашай арганізацыі, аб парадкаванні арганізацыйных спраў і далейшай актывізацыі нашай дзейнасці. Ад нас жа саміх залежыць, якая гэта дзейнасць будзе, якія дасць вынікі, як узбагаціць скарбніцу агульнанароднага руху карыснай грамадскай ініцыятывы.**

**Мы — аптымісты, верым, што Новы год падарыць людзям больш радасці, чым смутку. Бо можна падзяліць год на большы або меншы лік месяцаў, можна месяцы падзяліць на большы або меншы лік дзён, ад гэтага яе шлях вакол сонца не зменіцца, яна будзе рухацца ў адным напрамку: наперад, а не назад. Такі закон прыроды і наш.**



Мінск. Плошча імя У. І. Леніна.

Фота В. Лупейка.




Народ, беларускі народ!
Ты цёмны, сляпы, быццам крот.
Табою ўсягды пагарджалі,
Цябе не пушчалі з ярма.
І душу тваю абакралі, —
У ёй нават мовы няма.

Словы гэтыя, поўныя горычы і жалю, належаць вядомаму беларускаму паэту Максіму Багдановічу. Так ён пісаў аб нешчаслівай долі беларускага народа пад прыгнётам царскага самаўладдзя.

Толькі ж не хацеў мірыцца народ са сваім гаротным становішчам. Згушчаліся хмары народнага гневу, зіхацеў маланкамі небасхіл, збіралася навальніца рэвалюцыі.

«А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе?» — пытаўся Янка Купала. І адказваў: «Беларусы». Бо захацелася ім, занядбаным і прыніжаным, «людзьмі звацца». І калі грымнулі залпы «Аўроры» і адбылася Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, працоўныя масы Беларусі рашуча сталі на яе бок. Яны былі разам з Леніным, з партыяй бальшавікоў. Бо Ленін, камуністы неслі ім свабоду, роўнасць права да шчасця.

1 студзеня 1919 года была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Упершыню ў сваёй гісторыі беларускі народ заваяваў сваю дзяржаўнасць. І не раз са зброяй у руках адстойваў яе. Аб гэтым яскрава сведчыць масавы гераізм беларускага народа, які быў праяўлены пры абароне заваёў Кастрычніка ў гады грамадзянскай і асабліва Вялікай Айчыннай вайнаў. На яе франтах змагалася звыш мільёна беларусаў, а на запалоненай беларускай зямлі разгарэлася полымя партызанскай барацьбы. У партызанскіх фарміраваннях налічвалася 374 тысячы патрыётаў. У іх рэзерве знаходзілася каля 400 тысяч мясцовых жыхароў. Звыш 70 тысяч чалавек вялі падпольную работу супраць чужынцаў у гарадах і рабочых пасёлках. Сярод народных мсціўцаў 71 працэнт складалі беларусы.

Партызаны Беларусі за час вайны знішчылі і вывелі са строю больш як паўмільёна гітлераўскіх захопнікаў — больш, чым амерыканцы і англічане да сярэдзіны 1944 года.

Беларусам за апошняе пяцідзесяцігоддзе двойчы прышлося пачынаць з нуля. Першы раз, калі атрымалі гаротную спадчыну ад царскага самаўладдзя. За рэкордна кароткі час была створана буйная прамысловасць. Ужо ў 1940 годзе валавая прадукцыя прамысловасці ўсходніх абласцей БССР перавысіла ўзровень 1913 года ў 23 разы.

У другі раз — пасля апошняй вайны. Загінуў кожны чацвёрты жыхар рэспублікі. Звыш 2 мільёнаў 200 тысяч сваіх сыноў і дочак не далічыў беларускі народ пасля заканчэння вайны. Яшчэ і сёння Беларусь не можа аднавіць даваенную колькасць насельніцтва. Страшэннымі былі матэрыяльныя страты. Акупанты знішчылі або спалілі ўсё, што здолелі. Без прытулку і даху над галавой засталося звыш трох мільёнаў чалавек.

З братняй дапамогай савецкіх народаў беларусы ўжо да 1950 года залячылі цяжкія раны акупацыі, аднавілі даваенны ўзровень прамысловасці, адрадзілі сельскую гаспадарку, культурна-асветныя ўстановы.

У беларусаў ёсць старажытнае паданне. У лясной чашчобе распусцілася цудоўная кветка. Злым сілам яна аказалася не да спадобы. Яны паклікалі на

**(Працяг на стар. 4)**

# ЗА ГОД, ЗА ДВА, ЗА ДЗЕСЯЦЬ...

Фільм закончыўся. Кіраўнічка вясковага клуба выключыла тэлевізар. Гаспадарам аднак не спяшалася дамоў.

— Якую толькі ерунду яны ў гэтай тэлевізіі не прыдумаюць! — адазваўся ў голас Колька Піліпаў. — Хто дзе бачыў, каб гаспадар сядзеў сабе дома ў мяккім крэсле, націскаў нейкія кнопкі, а машыны самі па полі гулялі і ўсё за яго рабілі. Фантазія гэта і толькі.

— Можа гэта і фантазія, — згадзіўся з ім дзядзька Максім. — Але што ты на тое, калі табе скажу, што за 5 год вось мы тут, у нашай вёсцы, **з кожнага гектара поля збіраць будзем па 24—25 цэнтнераў збожжа?**

— А дзе ж табе такое прыснілася, Максім? — недаверліва запытаў яго сусед.

— Нічога мне не снілася, — адказаў Максім. — Гэта план. Быў я вось у Беластоку, у зяця. Каляды разам спраўлялі. Яны там, у горадзе, зараз па-новаму стылю святкуюць. Дык не такія яшчэ дзівы ён мне расказаў. Зяць мой якраз планаваннем сельскай гаспадаркі займаецца.

— Дык што ён там напланаваў? — пацікавіўся Максімаў кум.

— То ж гавару: 19 цэнтнераў збожжа з гектара ў 1970 годзе, а 24—25 цэнтнераў пад канец 1975 года.

— Хіба на паперы! — адрэзаў Колька Піліпаў.

— І я яму так гаварыў, але ён кажа, што не на паперы, а на зямлі, на нашай зямлі. Толькі трэба, кажа, гэтай зямлі даць больш гною і попелу.

У 1970 годзе прывязуць нам, кажа, столькі штучных угнаенняў, што на кожны гектар хопіць па 100 кг хімічна чыстага рэчыва, а за 5 год — у два разы больш! І насенне іншае, гаварыў, будзе. Чулі пра пшаніцу «Эрас» або «Штарка», не? Дык аказваецца, што яна ўжо добра выпрабавана ва ўмовах Беластоцкага ваяводства. І паверыце ці не — дала яна па 45—50 цэнтнераў з гектара! Вучоныя дарэмна нашага хлеба не ядуць. Сустрэў я аднаго, калі да зяця госці прыйшлі. Дык ён мне гаварыў, што вучоныя хлебаробы і ў нас, і ў другіх краінах намагаюцца знайсці такі гатунак збожжа, каб давала яно з аднаго гектара да 100 цэнтнераў.

— Але ж ты разагнаўся, Максім! — сказаў яго кум. — А ці жывёлу яны таксама касмічнымі тэмпамі намагаюцца размножваць, што? Як табе гаварылі?

— Калі хочаш, магу сказаць і пра жывёлу, — не збянтэжыўся Максім. — Дык прадбачваюць яны, браток мой, што колькасць рагатага статку будзе павялічвацца праз кожныя 5 год на 40 прац.

— Значыць, — адазваўся кум, — калі я зараз маю тры каровы і дзве ялошкі, то за 5 год, паводле іх плана, павінна быць у мяне 7 штук? Адкуль жа я корму для іх вазьму? Хто сечку для іх будзе рэзаць? Можа твой вучоны зяць прыедзе, што?

— З кормам бяды не будзе, — спакойна паясняў Максім, — бо нам Нарву змеліяруюць і балота асушаць. Калі хочаш ведаць, то за 10 год у нашым Беластоцкім ваяводстве не застанецца ні аднаго кавалачка дрыгвы. Усюды трактарам можна будзе заязджаць. А пра сечку таксама не бядуй. Ужо пад

**(Працяг на стар. 4)**



# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ПАЛІТЫЧНЫЯ ЗДАРЭННІ Ў 1968 Г.

1968 год названы быў Арганізацыяй Аб'яднаных Нацый годам правоў чалавека. 1968 год характарызаваўся таксама многімі шчаслівымі здарэннямі: не прымянялася тэрмаядзерная зброя, падпісаны дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі, а таксама пачаліся размовы ў Парыжы, мэта якіх — мірнае заканчэнне в'етнамскай вайны. Велізарны прагрэс наступіў у галіне заваявання космасу і перасаджвання сэрца. Заключэннем гадавых дасягненняў у галіне заваявання космасу быў лёт трох амерыканскіх астранаўтаў вакол Месяца і шчаслівы зварот іх на зямлю 27 снежня 1968 г.

А вось некаторыя палітычныя справы 1968 года.

**Злучаныя Штаты і В'етнам.** Для амерыканцаў 1968 год быў годам шокаў — прэзідэнт Джонсан адмовіўся кандыдаваць у прэзідэнты; забіты былі М. Кінг і Р. Кенедзі; студэнцкія хваляванні; в'етнамская вайна сабрала яшчэ большае смяртэльнае жніво. Зараз увага канцэнтруецца на асобе прэзідэнта — электа Ніксана, які ў склад свайго ўрада паклікаў мала знаных за мяжой, выключна белых, палітыкаў. У маі 1968 г. у Парыжы распачаліся ўступныя размовы ЗША і ДРВ, якія ў апошніх месяцах пашырыліся на прадстаўнікоў ФНВ Паўднёвага В'етнама і сайгонскага рэжыму. Спынены бамбардзіроўкі Паўночнага В'етнама.

**Валютавы крызіс.** Найважнейшым здарэннем фінансавага свету ў 1968 г. была страта даверу для папяровай валюты і спекуляцыя золатам.

**Дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі.** 1 ліпеня 1968 г. СССР, Злучаныя Штаты і Вялікабрытанія падпісалі дагавор аб нераспаўсюджванні тэрмаядзернай зброі. Але ратыфікавала дагавор толькі Вялікабрытанія.

**Студэнцкія праблемы.** 1968 год можа запісацца ў хроніках гісторыі як год студэнцкіх бунтаў. Хваля непакояў у асноўным была звязана з грамадскай няроўнасцю і агульным незадавальненнем становішчам, пануючым у паасобных вышэйшых навучальных установах і на свеце.

**Блізкі Усход.** 1968 год мінуў пад знакам перастрэлкі на ізраільска-іарданскай граніцы і праз Суэцкі канал. У Іраку ў чэрвені адбыўся бяскрывавы ваенны пераварот.

**Лацінская Амерыка.** Ваенны пераварот адбыўся ў Перу і ў Панаме. У Венесуэлі прэзідэнцкія выбары выіграў прадстаўнік грамадска-хрысціянскай партыі, а ў Бразіліі ў снежні прэзідэнт распусціў парламент.

**Кітай.** Адным з асноўных палітычных здарэнняў у Кітаі ў 1968 г. быў факт, што Лю Шао-тсі афіцыяльна быў адсунуты ад усялякай улады.

А. Кар.



## БССР

### ВЯРХОЎНАГА

Адбылася пятая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі сёмага склікання. Сесія пачала сваю работу напярэдадні знамянальнай падзеі ў жыцці беларускага народа — 50-годдзя Беларускай ССР і Камуністычнай партыі Беларусі.

У сесіі ўдзельнічалі кіраўнікі партыі і ўрада Беларусі: Ц. Кісялёў, І. Макараў, П. Машэраў, С. Пілатовіч, І. Палякоў, С. Прытыцкі, А. Смірноў, М. Полазаў, намеснікі старшыні і члены Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснікі Старшыні Савета Міністраў, міністры і іншыя члены беларускага ўрада.

З дакладам аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР на 1969 год выступіў намеснік Старшыні Савета Міністраў, старшыня Дзяржаўнага плана БССР, П. Коханаў.

З дакладам аб Дзяржаўным бюджэце Беларускай ССР на 1969 год і аб выкананні Дзяржаўнага бюджэту Беларускай ССР за 1967 год выступіў міністр фінансаў БССР Б. Шаціла.

### ЗАКОН

Апублікавана «Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі аб Дзяржаўным плане развіцця народнай гаспадаркі Беларускай ССР на 1969 год».

Вось некалькі даных планавага прыросту ў працэнтах у параўнанні з 1968 годам: планавы прырост прадукцыі прамысловасці — 7,2 працэнта, вытворчасць сродкаў вытворчасці ўзрасце на 7,5 працэнта, дзяржаўныя цэнтралізаваныя капітальныя ўкладанні — на 15,8 працэнта, павелічэнне рэальных даходаў на душу насельніцтва прадбачваецца на 6,1 працэнта.

### СХОД

У Мінску, у памяшканні Вышэйшай партыйнай школы, адбыўся ўрачысты сход грамадскасці, прысвечаны 50-годдзю заснавання Камуністычнай партыі Польшчы і 20-годдзю стварэння Польскай аб'яднанай рабочай партыі. У сходзе ўдзельнічаў, м. ін., сакратар ЦК КП Беларусі С. Пілатовіч.

У час урачыстага адкрыцця сходу аркестр выканаў Дзяржаўныя гімны Польшчы, Саюза ССР і Беларускай ССР.

З дакладам аб 50-годдзі КПП і 20-годдзі ПАРП выступіў дырэктар Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, доктар гістарычных навук І. Ігнаценка.

### ПАМЯТНЫМІ

За заслугі ў развіцці народнай гаспадаркі і культуры, за поспехі, дасягнутыя ў спаборніцтве гарадоў і раёнаў у гонар 50-годдзя Беларускай ССР і КП Беларусі, узнагароджана Памятнымі сцягамі ЦК КП Беларусі, Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, Савета Міністраў БССР і Белсаўпрофа гарады і раёны: Брэст, Баранавіцкі раён, Камянецкі, Пінскі раён, г. Гродна, Свіслацкі раён, Слонімскі, Вілейскі, і інш.

(С.Я.)




### У СЕЙМЕ

У днях ад 20 да 22 снежня адбылося 3-дзённае пленарнае пасяджэнне Сейма. Сейм прыняў пастановы ў справе нацыянальнага гаспадарчага плана і бюджэту дзяржавы на 1969 год, рашэнне ў справе папаўнення складу Рады Дзяржавы, а таксама зацвердзіў прапанаваныя Старшынёй Рады Міністраў змены ў складзе ўрада. Апрача таго Сейм прыняў справаздачу ўрада аб выкананні нацыянальнага гаспадарчага плана і бюджэту ў 1967 годзе і новае распараджэнне аб вышэйшых школах, правёў змены ў распараджэнні аб Камітэце навукі і тэхнікі.

### ЗМЕНЫ

На апошнім пасяджэнні Сейм выбраў пасла Вітальда Ярасінскага членам Рады Дзяржавы. В. Ярасінскі з'яўляецца сакратаром Агульнапольскага камітэта Фронту адзінства народу.

Адначасова Сейм адклікаў Зэнана Новака і Францішка Ванёлку з пасады намеснікаў Старшыні Рады Дзяржавы, Адама Рапацкага з пасады міністра замежных спраў, Стэфана Ендрыхоўскага з пасады старшыні камісіі планавання пры Радзе Міністраў, Аляксандра Бурскага з пасады старшыні камітэта працы і заработкаў, Вітальда Трампчынскага з пасады міністра замежнага гандлю, Эўгеніюша Шыра з пасады старшыні камітэта навукі і тэхнікі.

Адначасова Сейм назначыў: Стэфана Ендрыхоўскага міністрам замежных спраў, Юзэфа Кулешу старшынёю камісіі планавання пры Радзе Міністраў, Міхала Крукоўскага старшынёю камітэта працы і заработкаў, Яна Качмарка старшынёю камітэта навукі і тэхнікі.

Адначасова Старшыня Рады Міністра Юзэф Цыранкевіч правёў некалькі іншых змен у складзе некаторых цэнтральных улад.

### БАЛЕСЛАЎ ЯШЧУК

У сеймавай дыскусіі над праектам пастановы аб нацыянальным плане гаспадарчым на 1969 год ад імя Пасольскага клуба ПАРП з прамоваю выступіў Балеслаў Яшчук. Сцвердзіў ён, што датагачасныя паказальнікі развіцця прадукцыі дазваляюць меркаваць, што 5-летні план гаспадарчага развіцця будзе перавыкананы. Падкрэсліў ён, што Польшча выбрала дарогу інтэнсіўнага эканамічнага развіцця — гэта значыць развіцця дарогаю павышэння прадукцыйнасці працы і ўвядзення найбольш сучаснай перадавой тэхнікі. У сувязі з тым нездаровай з'явай з'яўляецца ўсё яшчэ выступаючы звышпланавы ўзрост колькасці рабочых. Адным з асноўных заданняў нашай гаспадаркі прамоўца акрэсліў неабходнасць скарачэння інвестыцыйных цыклаў.

(п)




### БУДАЎНІКІ Ў ТАВ. А. ЛАШЭВІЧА

27 снежня 1968 г. **I сакратар ВК ПАРП тав. А. Лашэвіч** прыняў дэлегацыю кіраўніцтва Беластоцкага аб'яднання будаўніцтва, якая далажыла яму аб датэрміновым выкананні плана за 1968 год.

План будаўніча-мантажнай прадукцыі, вартасць якога 949 мільёнаў зл., выкананы да 27 снежня мінулага года, а да канца 1968 г. працаўнікі БЗБ далі звышпланавую прадукцыю, вартасць якой 5 мільёнаў зл. Трэба падкрэсліць, што ўзрост прадукцыі на 107 мільёнаў зл. у параўнанні да 1967 г. дасягнуты дзякуючы павялічанай прадукцыйнасці працы пры адначасовым утрыманні колькасці рабочых на ўзроўні 1967 года.

Датэрміновае выкананне плана ў рамках цэлага аб'яднання дасягнута ўпершыню ад 1962 года, г. зн. ад часу стварэння БЗБ.

### ЗАЎТРА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

У Ваяводскім камітэце партыі адбылася нядаўна нарада партыйнага і гаспадарчага актыву. Найважнейшыя праблемы народнага гаспадарчага плана Беласточчыны на 1969 год накрэсліў **сакратар ВК С. Рубчэўскі.**

Аб узросце прамысловай прадукцыі будуць рашаць чарговыя інвестыцыі на Беласточчыне. Найвялікшую дынаміку развіцця паказваюць інвестыцыі спажывецкай прамысловасці, лёгкай, драўніннай, машыновай і прамысловасці будаўнічых матэрыялаў. **У 1969 годзе будзе працягвацца між іншым пабудова збожжавых складаў, фабрыкі шоўку ў Ломжы, аддзялення мэблі і стружкавых пліт у Гайнаўцы, разбудова беластоцкага завода шкла і фабрыкі прыладаў і ўхвытаў, якая арганізуе свой філіял у Бельску Падляшскім, пачнецца падрыхтоўка да пабудовы цукроўні ў Лапах.**

Вялікія фінансавыя сродкі атрымае таксама сельская гаспадарка. Толькі на будаўніча-мантажныя работы атрымае яна **650 мільёнаў зл.**

### КОЛЬКІ ЗУБРОЎ У БЕЛАВЕЖЫ?

Паводле найнавейшых даных актуальная колькасць зуброў у Белавежскай пушчы — 188 штук. На свабодзе знаходзяцца 153 зубры, а рэшта прабывае ў рэзерватах.

Зубровая сям'я павялічваецца. Даныя з пачатку 1968 года гавораць, што ў Белавежскай пушчы жыло 168 зуброў.

### СЯРЭДЗІНА БЕЛАСТОЦКАГА ВАЯВОДСТВА

Аказваецца, што сярэдзіна Беластоцкага ваяводства знаходзіцца непадалёк ад вёскі Паросль у Беластоцкім павеце. Гэтая вёска распалажана на захад ад Беластока і аддаленая ад цэнтра горада на 7 кіламетраў.

А.К.




**NIEDZIELA, 5.I.**

8.30 Program dnia. 8.35 TV Kurs Rolniczy: „Metody upraszczania produkcji w gospodarstwach rolnych". 9.10 „Przypominamy, radzimy". 9.20 „Zdrada" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 10.30 Dla młodych widzów: „Festiwal młodych" (Moskwa). 11.00 PKF. 11.10 Dla dzieci: „Lampa Alladyna" — film NRD. 11.30 „Barok na Ukrainie" (Kijów). 12.00 Dziennik. 12.10 „Bawcie się z nami" — amatorskie zespoły przed kamerami. 12.50 Krakowski Teatr Baśni: A. Kozak — „Wiślańskie straszydło". 13.55 „Przemiany". 14.25 „Skok na Arnhem" — film („Polacy na frontach II wojny światowej"). 14.45 „Szlakiem zabytków". 15.05 „Wielka gra". 15.55 „Spotkanie z pisarzem" — Wojciech Żukrowski. 16.50 „Pogadanki o języku". 17.05 Estrada Literacka: J. Harasymowicz — „Ogień makowego pola" („Nowa poezja polska"). 18.05 „Drugi po Bogu" („Ludzie i zdarzenia"). 18.20 „Wieczorem w stolicy NRD" — program rozrywkowy. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Tajemnica portretu" — film fab. ang. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.35 „Ewa i dzieci" — film („Ewa").

**PONIEDZIAŁEK, 6.I.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec". 17.30 Sprawozdanie sportowe. 18.30 „Skarby Sajanów" — film radziecki. 18.45 „Eureka". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 Teatr TV: J. Korzeniowski — „Kollokacja". 21.35 „Nad Sławą i Szprewą" — rep. film. („Profile kultury") (życie kulturalne NRD). 22.15 Dziennik.

**WTOREK, 7.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — J. Kochanowski „Odprawa posłów greckich". 10.25 „Ikaria X — B1" — film fab. czechosł. 12.00 Dla szkół: (kl. II i III) Język polski — „Nasi przyjaciele". 12.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Przykłady zmianowania na glebach zwięzłych i lekkich". 13.15 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.45 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Film. 17.00 TV Ekran Młodych. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Giełda piosenki". 20.35 „Ikaria X — B1" — film fab. czechosł. 22.00 „Schronisko". 22.25 Dziennik.

**ŚRODA, 8.I.**

10.00 „Sygnały" — film fab. pol. 11.30 Przerwa. 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Made in Poland". 12.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: „Symetria środkowa i równoległoboki". 15.30 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam". 17.00 „Kiedy trzeba podjąć decyzję". 17.25 Reportaż z Mistrzostw Polski w jeździe figurowej na lodzie. 18.05 „Telekram". 18.15 TV Kurier Warszawski. 18.35 Wszechnica TV: „Sztuka liczenia". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Światowid". 20.35 „Axur — Król Ormuz" — opera. Muzyka — A. Salieri, Libretto — W. Bogusławski. 21.50 „Pejzaże". 22.20. Dziennik.

**CZWARTEK, 9.I.**

9.00 Dla szkół: (kl. V) Język polski — „Spotkanie z pisarzem". 9.30 Przerwa. 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Bagnet na broń". 10.25 „Zalakowana koperta" — film fab. radz. 11.35 Przerwa. 12.45 i 14.55 Mechanizacja Rolnictwa: „Układ smarowania silników spalinowych". 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.25 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem". 17.50 TV Kurier Kielecki. 18.05 „Nad Odrą i Bałtykiem". 18.30 „Przegląd muzyczny". 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.00 „Album folklorystyczny" (Bukareszt). 20.35 „Edyta" — film TVP („Stawka większa niż życie"). 21.35 „Refleksje". 22.05 Dziennik.

**PIĄTEK, 10.I.**

9.55 Dla szkół: (kl. VII) Zajęcie techniczne: „Czujniki w urządzeniach sygnalizacyjnych". 10.25 „Edyta" („Stawka większa niż życie"). 11.25 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 „Preorientacja zawodowa". 15.30 i 22.30 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: Kino „Ptyś". 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka". 17.20 TV Kurier Mazowiecki. 17.35 „Nie tylko dla pań". 17.55 „Sylwetka kompozytora" — Henryk Mikołaj Górecki. 18.25 Wszechnica TV: „Polski sezam". 18.55 „Definicje" — teleturniej. 19.20 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.05 „Kontakty ". 20.30 Teatr TV: M. Promiński — „Zjazd koleżeński". 22.00 „10 minut recenzji". 22.10 Dziennik.

**SOBOTA, 11.I.**

9.30 „Kupiłem tatę" — film fab. radz. 10.55 Dla szkół: (kl. V) Geografia — „Ziemia wydarta morzu". 11.25 Przerwa. 15.20 Program dnia. 15.25 TV Kurs Rolniczy: „Eksploatacja budynków inwentarskich". 16.00 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci". 16.10 Program tygodnia. 16.35 Dziennik. 16.45 Teatr Młodego Widza: E. Niziurski — „Sposób na Alcybiadesa". 17.55 „Gawędy wilków morskich". 18.10 Reportaż z Mistrzostw Polski w jeździe figurowej na lodzie". 18.45 „W cieniu marszałka" — film („Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej"). 19.20 Dobranoc. 19.30 Monitor. 20.10 „Karnawałowy przekładaniec" — program estradowy. 21.25 „Tele-Echo". 22.15 Dziennik. Wiadomości sportowe. 22.35 „Bal Mistrzów Sportu". 23.35 „Wieczór z Fredem Astairem" — film. program rozrywkowy.




**Piątek, 3 stycznia**

8.05 Dziennik. 8.15 „Cuda przyrody". 8.30 „Świeci gwiazdeczka". 9.00 Koncert. 14.45 Program dnia. 14.50 Dla uczniów. 15.10 „Karaś-idealista". Spektakl TV. 15.30 Dla dzieci. 16.00 „Białoruś dziś". 16.30 „Nowiny". 16.40 „Wystawa jubileuszowa białoruskich plastyków". 17.00 „Tajemnicza wyspa". Film fabularny. 18.30 „Sztafeta nowin". 19.15 TV barwna. 20.05 „Białoruś świętuje". Film TV z uroczystości 50-lecia BSRR. 21.00 „Kronika życia muzycznego republiki".

**Sobota, 4 stycznia**

7.45 Dziennik. 8.00 „Zdrowie". 8.30 „Nowe w budownictwie wiejskim". 9.00 „Sztuka i my". 9.45 „Białoruś dziś". 10.15 TV filmy dla uczniów. 12.00 TV atlas narodów ZSRR. Kirgizja. 13.00 Hokej. „Dynamo" (Moskwa) — „Automobilista" (Świerdłowsk). 16.15 Teatr noweli TV. 16.40 TV barwna. 18.50 Dziennik. 19.00 „Świat socjalizmu". 19.30 „Czarna pantera". Film fabularny. 21.00 Program rozrywkowy.

**Niedziela, 5 stycznia**

7.15 Dziennik. 7.30 „Budzik". 8.00 „Białe i czarne". 8.30 „Kompozytorzy białoruscy dzieciom". 9.20 Kronika filmowa. 9.30 Wiejski czas". 10.30 Wszechzwiązkowy przegląd uczestników twórczości dziecięcej. 11.00 „Kiosk muzyczny". 11.30 „Białoruś dziś". 12.00 Dla żołnierzy. 12.30 Spektakl teatralny. 15.00 Dziennik. 15.15 Almanach TV. 16.15 „Siedem dni". 17.00 Koszykówka. CSK — „Forwerts". 18.30 TV barwna. 21.05 „Dziennik sportowy".



## БУРА НА ХУТАРЫ

Як толькі мая памяць сягае, бура заўсёды паяўлялася з-за Прафіткі, гары, ад якой пачынаецца даліна, вялізная міска, а наша хата ў ёй, бы нясмачная скварка, сасмажаная на вугалёк. Мой бацька ўсё жыццё збіраўся закласці пад хату новыя падрубы і ў апошнія дні жыцця даверыў гэту справу мне, маладому гаспадару. Бацька меў наказ ад свайго бацькі, а майго дзеда, каб закласці новыя падрубы пад хату, і я не даў бы рукі адсекчы за тое, ці часам не прадзед меў зрабіць гэта... З Прафіткі дзень у дзень збягае ўніз шаша, нырае ў зялёны ачарот над рэчкаю, дзе часамі купаюцца дзяўчаты на тым бязлюддзі, і, набраўшыся адтуль разгону, шнуруе пад высокую гару па другі бок даліны, падаўгаватую гару накшталт паднябеснай траншэі. Значна вышэйшую ад Прафіткі. Пад той гарою, што значна вышэйшая ад Прафіткі, часта псуюцца аўтобусы, і тады можна голым вокам бачыць, як жанатыя мужчыны апякуюцца непатрэбнымі жонкамі, і як жонкі зайздросцяць паненкам, а кавалеры зайздросцяць жанатым, мараць не столькі аб жаніцьбе, колькі аб правах, якія дае жаніцьба. Гэта ясна. Уяўляю сабе, што чаўплося б у ваколіцы папсаванага аўтобуса, калі б не было бога ў небе, а на зямлі міліцыі з судамі.

Падвечар сапраўды пачуліся грымоты за Прафіткаю і засняжыў пылок на шашы, пылок молатага цукру, калі патайком зжыраеш у каморы дзівосную матчыную мазурку на Вялікдзень. Галодныя грымоты. Пакуль чуб хмараў высоўваўся і высоўваўся, пакуль паявілася даўно непаголеная фізіяномія буры з зубелямі бліскавіцаў, фізіяномія, якая найменш тры дні не ела, выбзыкнуў перад носам яе, з-паза Прафіткі, адурэлы аўтобус і так паімчаў уніз, так прарнырнуў праз ачароты, у якіх ужо нарабіў пад сябе масток, так скочыў за паднябесную траншэю, што здавалася вось надыходзіць канец свету. Стрэхі, поўныя птаства, галак, шпакоў, вераб'ёў пад стрэхамі, куры з цётчынай упартасцю ўкопваюцца ў зямлю, свінкі неспадзявана разбрыкаліся па загарадзе з радасцю рэкрутаў на астатняй забаве ў вёсцы — свінская прыемнасць упаўшых духам, пасмутнеў конь, прыдурэлі каровы, не гаворачы ўжо пра авечак. Паветра набрыняла надзеяй, што хата ўсё такі будзе плываць, яна ж драўляная, кожнаму хопіць кавалак чагосці... Маці зачыніла акно, каб пярун не ўдарыў, не спаліў.

Па небе прайшоўся чорт з віламі, выгібаючыся ад рогату, быццам старая паненка, убачыўшы надзею, і, каб не страціць яе, іржыць недвухзначна. Аўтобус, калі не пагубіў па дарозе колаў, напэўна сядзіць у сваім гаражы, схаваўшы смярдзячы хвост, ды плюскае шклянымі бельмамі гультаяватага сабакі. Вёз пасажыраў, як бобік кошку на хрыбце, палёгку меў пры хуткім бегу, вельмі хуткім, такім хуткім, што дайшло да рэдкай хвілі згоды. Прапаў за траншэяй.

Ну...

У пекле знайшліся мы ноччу, аселі на самюсенькім дне, над намі дагараў свет. А мо гэта ўсмешкі чэрцяў, пахіленых і прабуючых убачыць нашу хатку? Маці малілася штораз галасней. У суседняй вёсцы выбухнуў пажар, асвятляючы шыбы, дождж, дрэвы, выгнаныя на загуменне цені кароў і каня, слепнякі сабакі, плот, каменні... Я выбег на парог і глядзеў на пажар з радасцю, бо ўбачыў, што свет існуе.

**Сакрат Яновіч**

Беласток, 27.IX.1968 г.

## БАГАТЫ ВЕЧАР

Багаты вечар! З нагоды гэткай
Ў душу жаданне адно прыходзіць,
Каб варажбою таемнай нейкай
Вываражыць шчасце ў Новым Годзе.

Каб зор дзяўчыне зняць на каралі,
Няхай засвецяць быццам у небе.
А месяц ясны ўшпіліць пад шалем,
Каб быў, як грэбень.

Каб Бай прынесіў многа цукерак
З таемнай пушчы, ад красналюдкаў,
І казак многа ў цёплай пасцелі —
Усім малюткам.

Каб усе маці мелі падарак —
Букет пахучых, чырвоных ружаў.
І больш ніколі не наракалі,
Што родны дзеці ўжо іх не любяць.

Каб родны бацька ў новай рубашцы
Ля цёплай печы марыў уголас,
Што зноў вясною будзе гараці
І сеяць збожжа.

Яшчэ бабульцы фартух узорны,
Дзядулю люльку з першай табакай...
Тады прысяду ціха на ўслончык
З верай у шчасце.

І буду цешыцца, што так умела
У гэты вечар споўніў жаданне.
Як заспяваюць першыя пеўні,
Мы НОВЫ ГОД прывітаем.

**Уладзімір Гайдук**





## ВЯСЁЛКА

Лівень змоўк, плыве вясёлка
На плаксівых хмар хрыбты.
Захапляецца Міколка:
Колькі фарбаў, пекнаты.

Там у высі, на нябёсах,
Хмары хтось запрог ў дугу,
Ўдалі грукаюць калёсы:
Гу-гу-гу, гу-гу-гу-гу.

## ЗЯЗЮЛЯ

Ад ранку: ку-ку, ку-ку,
На хвоях, елках, буках
Зязюля кукавала
І пільна назірала:
Каму б сваё яечка
Падкінуць у гняздзечка.

Падкінула. Праз лета
Ёй птушкі кормяць дзетак,
А ў мачахі-зязюлі
На думцы толькі гулі,
Разносіць без прынукі
Па свеце ку-ку, ку-ку.

**Віктар Швед**

**Ежы Плютовіч**

**З цыклу «Каханне ў Падрэчанах»**

## ЗА ТРУНОЙ

**плывуць сані лесам
ад зімы надта белым
не таюць сняжынкі
на вейках хлопцаў забітых**

**ці гэта сонца між дрэў
чырванню ўзыходзіць
ці палыхаюць пажары далёка
над вялікай пустою раўнінай**

**шоргат палоззя як брытвы шоргат
аб цвёрды вайсковы рамень
і храпуць цяжка коні
клубы пары з ноздраў валяць**

**а хто ж вас хлопчыкі прыме нанач
рагочуць вароты абгарэлага касцёла
збег даўно ашалелы званар
снег сляды зацярушыў
усцяж пустая раўніна**

з польскай пераклаў
**Мікалай Гайдук**



БЕЛАВЕЖА

ОРГАН ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 121

## Шклянка крыві

Надыходзіла свята. Трое мужчынаў, як дубы, з закасанымі рукавамі трымалі вялікага паршука за ногі і хацелі пакаціць яго на зямлю. Віск лялясаў па панадворках.

Эдзё Данько трымаў паршука на вяроўцы. Урэшце, пакацілі. Казё Слямінскі выняў з-за халявы доўгі нож.

Адзін моцны віск — і ўжо па ўсім.

Цяпер асмаліць шэрсць, абмыць і расправіць. Многа мяса. Казё скінуў кашулю і мые рукі. Яшчэ думае, як узяцца за работу, курыць папяросу і вострыць нож. Завязвае сабе хвартух.

Казё разрэзаў мяса і ўсадзіў руку ў нутро. Потым зачарпнуў поўную шклянку крыві.

— Яшчэ цёплая, — паказаў нам.

І выпіў адразу.

Пачаў рэзаць свежую, паруючую саланіну. Мы не маглі глядзець на гэта.

**Эдвард Ярашэвіч**

## ДУДКА

Я не дужы.
Мой голас слабы.
Але я пайду ў луг
і з вярбы,
пад якой пасядзець так люблю,
дудку моцную вельмі
зраблю.
Як зайграю —
зямля задрыжыць!
Голас дудкі зямлю абляціць
і далей паімчыць
да планет.
І напоўніцца радасцю свет!
І варожасці болей не будзе.
Пакахаюцца шчыра
ўсе людзі.
І забудуцца ўсе аб вайне!..
Вось дык слава
і дудцы,
і... мне!

**Алесь Свісёк**

## ◆ CREDO ◆

**Бацькам**

Я жыць хачу, як вы жылі:
Сярод палёў, звяроў і чыставоддзя,
Здалёк ад гарадоў, машын
І цывілізаваных паводзін.

Мне вясковага хочацца хлеба,
З дзежы высокай — шчэ дзедавай,
Малака і поўну каструлю
З лупінай наваранай бульбы.

Як хлеба, мне хочацца зелені
Цішыні, надвячоркаў росных,
Шчасця, нічым не раздзеленага,
І дарог палявых, няпростых.

Дзе лёгка зусім заблудзіцца
І верыць: шчаслівы ты ўволю,
Дзе б'юць жыватворчы крыніцы,
Дзе кожнаму можа прысніцца
Паэзіі магнітнае поле.

**І. Чыквін**



## Ветраны пейзаж

**Вецер паклаў у барозны
марскую гладзь
глыбіня
пеніцца на бераг
за яго абразумленае жыццё
сонца праменнямі
барануе хвалі
ветразь
сеючы людскую насцярожанасць
каб карэнні сягнулі
да
сілы прыцяжэння
глыбіні**

## БЕЛАВЕЖА

**Сып мне снегам у твар
вастры на вейках іней
прыпадабнюся
да пнёў
і да галля
у сваё зацішша звяблю
сарнаў трух
у іх інстынкты
розумам пранікну
каб век даўжэйшым
шпаркасць кулі затрымаю**

**Яша Бурш**

 



Жыллёвыя дамы на вуліцы Горкага ў Гродна. Фота: Э. Трыгубовіча




Карэспандэнцыя з Гродна

Скажу шчыра, у дні вялікага нацыянальнага свята — 50-годдзя Беларускай Савецкай дзяржавы і Камуністычнай партыі Беларусі, усё часцей і часцей думаеш аб Нёмане з яго зялёнымі берагамі і быстрай плынню;аб зямлі прынёманскай з яе здзіўляюча сінім небам і пырскаючым блакітам азёр; з яе неабсяжнымі ляснымі масівамі і адзінокімі бярозкамі; аб старажытным Гродне з яго накіраванасцю ў будучыню.

Нямецка-фашысцкія захопнікі пакінулі на Гродзеншчыне развалiны і попел. Вайна забрала 300 тысяч чалавечых жыццяў, або палову ўсяго насельніцтва вобласці.

Уласнымі рукамі, абапіраючыся на бескарысную брацкую дапамогу ўсіх савецкіх народаў, працоўныя вобласці за кароткі тэрмін не толькі аднавілі разбураную гаспадарку, але і абяспечылі сапраўды гістарычныя пераўтварэнні эканомікі і культуры. За пасляваенныя гады на гродзенскай зямлі ўведзена ў строй звыш двухсот заводаў і фабрык.

Які гэта аграмадны ўзлёт — звыш двухсот прамысловых прадпрыемстваў, пабудаваных усяго за два дзесяцігоддзі! А жа ж зусім іншую карціну прадстаўляла сабою Гродзеншчына да вялікага гістарычнага акта аб'яднання заходніх абласцей Беларусі ў адзіную Беларускую Савецкую дзяржаву. Як гнілая балотная вада адрозніваецца ад крыштальна чыстай вады Нёмана, так адрознізаецца і мінулае ад цяперашняга.

Раніца. У паветры свежа. З ускраін і цэнтра Гродна аўтобусы рухаюцца ў напрамку будаўнічай пляцоўкі завода па вытворчасці капронавага валакна. «Наш капралактамавы!» — з асаблівай гордасцю называюць яго гродзенцы. І гэта гордасць нездарма. Дык з уводам у строй хімічнага гіганта на Нёмане (а ён ужо дасць першую прадукцыю ў канцы 1969 года) у Савецкім Саюзе на палавіну будзе павялічана магутнасць па вытворчасці капронавага валакна. Побач са мною ў аўтобусе сядзіць іншаземны інжынер.

— Я не навічок у вашай краіне, — гаворыць ён. — Па кантрактах маёй фірмы манціраваў установкі на шматлікіх заводах. Ужо некалькі год, як ведаю вашу краіну, а вось савецкі чалавек застаецца для мяне загадкай.

Ён на хвіліну змоўк, а затым працягваў сваю думку:

— Я добра ведаю гісторыю майго народа. І на маёй зямлі не менш было крывавых бітваў, чым на вашай. Але скажу адкрыта, гераізм вашага народа як у гады барацьбы з нацызмам, так і цяпер, проста здзіўляе розум. І адкуль толькі ў яго такая волатаўская сіла? Яна для мяне больш загадкавая, чым тайны Сусвету.

Здзіўляюцца іншаземныя спецыялісты, назіраючы за будаўніцтвам Гродзенскага капралактамавага, здзіўляліся яны і назіраючы за ходам будаўніцтва Гродзенскага азотнатукавага. Здзіўляюцца і не зразумеюць, што валатоўская сіла савецкіх людзей заложана ў самай ідэі будаўніцтва камунізма. Адсюль імкненне безупынна рухацца наперад. Нам, савецкім людзям, родная краіна бачыцца імклівай ракетай. У гэтай ракеты стартавая пляцоўка — XXIII з'езд КПСС, лоцманская карта — Праграма партыі, а топліва рухавікоў — энергія, натхненне нашага народа.

— У вялікім паходзе! — вось два словы, якія характарызуюць сёння Гродзеншчыну. Аб гэтым гаворыць лаканічная хроніка яе працоўных поспехаў. Толькі за два з паловай года гэтай пяцігодкі капіталаўкладанні ў развіццё прамысловасці, транспарту і сувязі склалі звыш 300 мільёнаў рублёў. За гэты час прадпрыемствамі асвоена звыш 100 новых відаў прадукцыі, з іх 23 — упершыню ў Савецкім Саюзе. Вырабы з маркай заводаў і фабрык Гродзеншчыны экспартуюцца ў сорак шэсць краін свету.

Вялікія змены адбыліся ў сельскай гаспадарцы. Яна стала высокаразвітай, абсталяванай перадавой тэхнікай галіной вытворчасці. Аб'ём прадукцыі калгасаў і саўгасаў вобласці толькі за апошнія гады вырас ў 2,2 разы. Вялікая праца праводзіцца па спецыялізацыі, канцэнтрацыі і каапераванні, што па сутнасці абазначае рэканструкцыю сельскай гаспадаркі.

Створана шырокая сетка школ, устаноў культуры і аховы здароўя. У сістэме аховы здароўя занята каля 2 тысяч лекараў з вышэйшай адукацыяй. У вобласці, дзе раней не было ніводнай сярэдняй школы, цяпер 3 інстытуты, 18 тэхнікумаў, 1.700 васьмігадовых і дзесяцігадовых школ.

Свяшчэннае знамя Гродзеншчыны вянчае ордэн Леніна — найвышэйшая ацэнка ратнай і працоўнай доблесці яе людзей, знак прызнання за іх бясприкладную мужнасць і гераізм, праяўленыя ў гады Вялікай Айчыннай вайны і актыўны ўдзел у камуністычным будаўніцтве.

Сацыялістычная Гродзеншчына крок за крокам, наперад і наперад, поўная энергіі і веры ў поспех, рухаецца да сваёй запаветнай мэты — да камунізма. Па гэтым шырокім і светлым шляху яе вядзе ленінская партыя. Камуністычнай партыі шле працаўнік з берагоў Нёмана словы любві і ўдзячнасці, роднай партыі ён прысвячае сваю працу, ёй ён давярае свой шчаслівы лёс.

А. Салаўёў

---

там і, назнуткаваўшыся, па-гітлераўску — выстраламі ў патыліцу — замардавалі.

Алексяюк дапамог мне звязацца з перадваенным дзеячам КПП Томашам Грабажам з Цеханоўца, а таксама з дзеячам Странніцтва Людовага Юзэфам Алейніцкім з Руткі.

Ад Алексеюкоў атрад рушыў у напрамку Бранска. Ноччу ў свірыдскім лесе знайшлі мы хаваўшыхся яўрэяў. Было іх 40 асоб: маладыя і старыя, жанчыны і дзеці. Большасць паходзіла з Бранска, дзве сям'і — з Боцек і адна вельмі прыгожая дзяўчына, якая звалася Марыся, з Варшавы.

Калі ўбачыў я гэтых людзей, апанаваў мяне жах: замораныя, абарваныя, брудныя і галодныя. Трэба было акружыць іх апекай, падпарадкаваць, з мужчын арганізаваць атрад, узброіць яго.

Атрад арганізавалі. На агульным сходзе вырашылі прысвоіць яму імя маршала Жукава. Галоўным заданнем гэтага атрада была ахова рутскіх лясоў ад знішчэння. Апрача гэтага, жукаўцы сістэматычна нішчылі тэлефонную лінію на адрэзках Бельск—Бранск—Цехановец і Бельск—Шэпетова.

Ян Анацік

---

НАШЫ НАСТАЎНІКІ

# ЛЮБЛЮ АДКРЫВАЦЬ НОВАЕ

**Ірына Ажэхоўская** — настаўніца пачатковай школы ў Чэхах Арлянскіх ад наймалодшых год марыла аб прафесіі педагога. Пасля заканчэння агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы старалася паступіць у педінстытут у Жэшаве, але не ўдалося. Не адмаўляецца аднак ад раз ужо выбранай прафесіі. Пачынае працу ў пачатковай школе як невыкваліфікаваная настаўніца. Можна сказаць, што выбірае цяжэйшы шлях здабыцця настаўніцкай прафесіі. Каб быць настаўніцай, павінна завочна закончыць карэспандэнцыйны педліцэй. Зараз Ажэхоўская з'яўляецца студэнткай завочнага аддзялення матэматыкі Настаўніцкай студыі ў Беластоку.

Нельга сказаць, што ўмовы працы І. Ажэхоўскай лёгкія. Трэба кожны дзень поездам з Гайнаўкі даехаць да месца працы. «У гэтым годзе, — расказвае настаўніца, — толькі 3 разы ў тыдзень трэба з Гайнаўкі выехаць у $5^{40}$, а дахаты прыязджаю ў $17^{00}$». Не ўспамінаю, што і памяшкальныя ўмовы да працы таксама нялёгкія тут. Праўда, і гэта змяняецца на лепшае.

— А нягледзячы на гэта...

— Не ўяўляю сябе працуючай у іншай прафесіі. Люблю з дзяцьмі, іменна разам з імі, адкрываць новае, вырашаць праблемы, бачыць у іх (у дзецях) з кожным месяцам, з кожным годам нешта новае.

Можна было б і закончыць расказ пра маладую, эмацыянальна заангажаваную настаўніцу вясковай школы, настаўніцу, якіх тысячы. Але на гэтым не канчаецца тыдзень працы Ірыны Ажэхоўскай. Ужо некалькі гадоў з'яўляецца яна членам мастацкага калектыву пры Гайнаўскім аддзеле БГКТ. Працу, даезды да працы і навуку спалучае яна з грамадскай працай, якая заключаецца не толькі ў прыманні ўдзелу адзін раз у тыдзень у рэпетыцыях калектыву, але і ў частых выездах калектыву з мастацкай самадзейнасцю. А як завязалося сяброўства з мастацкім калектывам, расказвае сама Ірына Ажэхоўская.

— Аднойчы я трапіла на выступленні калектыву ў нашым Доме настаўніка ў Гайнаўцы. Тады ставілі нейкую п'есу. Мне гэта спадабалася. Можа спадабалася не столькі п'еса, колькі сама ідэя стварэння такога мастацкага калектыву. Вырашыла далучыцца. Спачатку мы былі драматычным гуртком, а зараз формы працы на многа пашырыліся. З удзелу ў калектыве, нягледзячы на нялёгкія ўмовы працы, маю прынамсі дзве карысці: гэтая грамадская праца дае мне многа асабістага задавальнення і, што галоўнае, будучы ў калектыве, стараюся падгледзець формы працы, каб перанесці іх потым у школу. Калі палепшацца памяшкальныя ўмовы нашай школы, напэўна трэба будзе нешта арганізаваць з вучнямі, а мо і з мясцовай моладдзю.

А. Карпюк

---

# БЕЛАРУСЫ — ЭТНАПСІХАЛОГІЯ

* * *

Этнапсіхалогія не выйшла са сферы прапаноў. Мела быць навукай, якая займалася б псіхалагічнымі асаблівасцямі розных народаў, выяўленымі ў літаратуры, мастацтве і грамадскім дзеянні. Народы аднак пераходзяць часта пераўтварэнні — непрадбачаныя і незразумелыя знаўцам іх псіхалогіі.

Даследчыкі адкрылі ў беларускай народнай душы найбольш славянскія не кранутыя чужымі ўплывамі рысы. Этнографы кінуліся даследваць беларускую душу. Узніклі вялікія працы аб беларусах, як Федароўскага, Пяткевіча, Машынскага — у Польшчы, ці Шэйна — у Расіі.

Які тады вобраз прадстаўляе сабой душа нашых дзядоў, знайшоўшая свае выяўленне ў дзесятках тамоў этнаграфічных запісаў?

Убогія, ціхія людзі, схільныя да сентыменталізму і паэзіі, чуллівыя, паслухмяныя, але неадважныя, нядзольныя да якога-колечы актыўнага бунту. Затым — павер'і, забабоны, абыякавасць да царквы і касцёла, напаўхрысціянскі характар народных вераванняў. Прымітывізм жыцця і прывязанасць да нязменнай народнай традыцыі. Такі больш-менш вобраз беларусаў пераказала нам этнаграфія. Вобраз гэты ў літаратуры трываў доўга, напэўна даўжэй, чым трэба. Бо ўмовы і характар беларусаў змяніліся на 180 градусаў.

У трыццатых гадах Антоні Асэндоўскі выдаў кніжку аб Палессі. Тэкст упрыгожвалі сентыментальныя вершы Сыракомлі і здымкі, на якіх напэўна відаць была ўся першабытнасць беларусаў. Яе захваляў чытачам аўтар кніжкі. Здзіўляўся ён, што людзі цікавяцца і захапляюцца першабытнасцю Афрыкі і яе культуры, а не ведаюць, што ў сэрцы Еўропы ёсць краіна не менш першабытная, экзатычная, недаследваная і дзікая, з не менш прымітыўнымі людзьмі.

Аўтар аднак памыляўся, або проста ілгаў. У той час польскі сацыёлаг Юзэф Абрэмбскі пісаў ужо свае працы аб зрэвалюцыянізаваным народзе Палесся, паказваючы аграмаднасць перамен, якія зайшлі ў свядомасці палескіх сялян. Яшчэ ў 1924 годзе віленскі часопіс «Пшэглёнд Віленскі» апублікаваў артыкул пад загалоўкам «Новыя моманты ў псіхіцы беларускага народа». Аўтар артыкула, нейкі Дрыгвіч, бачыў спецыфіку беларускага характару не толькі ў фальклоры беларускага люду, але і ў яго гісторыі. Ён прыводзіць шэраг прыкладаў неахвоты ці нядольнасці беларусаў да барацьбы ў абароне ўласнай справы ў мінулым, як хаця б факт заваявання беларускіх зямель невялікімі сіламі літоўскага княства. Аўтар сцвярджае адначасова, што гэты пасіўны характар беларусаў карэнным чынам змяняецца — у беларускім народзе нарастае атмасфера бунту і барацьбы за ўласныя інтарэсы.

Заходняя Беларусь становіцца найбольш зрэвалюцыянізаванай часткай Польшчы, беларусы — адным з найбольш рэвалюцыйных яе элементаў. Пагаворка — лозунг: «Следам за дзедам» перастае абавязваць, перастае абавязваць народны культ старыны, знікае праславянскі тып беларуса — пакорнага селяніна, родзіцца новы тып беларуса - бунтара.

Такім чынам, пачынаючы ад канца першай сусветнай вайны традыцыйная народная культура перастае акрэсліваць псіхіку беларусаў, акрэсліваюць яе палітычныя і грамадскія ўмовы жыцця беларусаў.

Перанясемся цяпер з гэтай больш ці менш адлеглай гісторыі ў нашую сучаснасць. Вымерлі ўжо амаль зусім старыя беларусы, выхаваныя ў традыцыйнай народнай культуры. У жыцці і грамадскай сітуацыі беларусаў штораз менш спецыфічнага, асаблівага. Нават рэлігія перастае адыгрываць істотную ролю. Што ж тады астаецца асаблівага ў псіхалогіі беларусаў? Амаль нічога. Прывязанасць, ці проста сімпатыя да беларускага фальклору ці пэўных форм усходнеславянскай народнай абраднасці, якой буйнасць і багацце змяншаецца аднак з году ў год. Таму не варажу этнапсіхалогіі далёкай будучыні — асабліва на нашым беларускім грунце.

Ул. Паўлючук



 

